


## КАРМУШКА

Прылятаюць птушкі
Ўзімку да кармушкі,
Бо зімой не зловіш
Ні жучка, ні мушкі.

Малышок Сярожка
Сыпле птушкам крошкі —
Ад пячэння крышку
І ад вафляў трошкі.

ПЯТРО СУШКО

№ 2 (1170) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 13.I.1980 г.

**Ул. Нядзведскі**

# Валёнкі для бярозкі

Насупраць дома, дзе жыве Святланка, за лета вырасла высокая камяніца. Перад ёй на скверыку саджалі ўвосень дрэўцы. Адну бярозку, самую тонкую, адкінулі.

— А гэтай не трэба вам? — спытала Святланка.

— Бяры яе сабе, калі хочаш, — сказаў вясёлы дзядзька, які са шланга палівуў дрэвы.

Святланка прынесла бярозку ў свой двор. Тата якраз быў дома. Дзяўчынка папрасіла яго пасадзіць дрэўца.

Тата доўга трымаў тую бярозку, перабіраў пальцамі карэньчыкі і нешта думаў. Потым выкапаў ямку. Святланка прынесла з клумбы чарназёму, пасадзілі дрэўца, палілі.

— Можа, і прымецца, — сказаў тата.

З кожным днём станавілася ўсё халадней і халадней.

— А бярозка ўзімку не замерзне? Яна ж голенькая, — трывожылася Святланка.

— Чаму голенькая? — не пагаджаўся тата. — На ёй кара. Ёй цёпла.

— Можа апрануць яе на зіму, укутаць? — не супакойвалася дзяўчынка. — На галінкі рукавічкі панадзяваць, а на ножкі — валёнкі.

— А дзе ж у бярозкі ножкі? — усміхнуўся тата. — Яе ножкі — карэнні.

— Зямля ж халодная.

— Гэта для нас з табой халодная, а для бярозкі цёплая. Вось выпадзе снег, укрые як коўдрай зямлю, і карэньчыкам стане цяплей. А пакуль трэба палівань бярозку, каб лепш расла.

Святланка паліла бярозку і чакала, калі выпадзе снег.

Лісточкі даўно апалі. Бярозка выглядала як сірацінка побач з высокімі каштанамі і таполямі. Пра іх Святланка і не думала. Яны ж вялікія, моцныя. А бярозка тоненькая-тоненькая.

Прачнулася аднойчы Святланка, а на дварэ бела.

— Тата! — закрычала дзяўчынка. — Зіма прыйшла! Глянь, колькі снегу!

— Вось цяпер можна і валёнкі для бярозкі зрабіць, — сказаў тата. Ён узяў шырокую лапату і пачаў падкідаць снег да бярозкі. І Святланка памагала сваёй лапаткай.

Неўзабаве бярозка і сапраўды стаяла як бы ў вялікіх снегавых валёнках. На яе чорных галінках таксама быў пушысты снег. Дакранешся — ён сыплецца, іскрыцца, зіхаціць.

Кожны раз, калі выпаў снег, Святланка брала сваю лапатку і падграбала яго да дрэўца. Бярозчыны валёнкі станавіліся ўсё большыя і большыя.



# ЧЫТАЕМ і пішам

Рыбакі цягнуць сетку.
Колькі ў ёй рыбы! Там лінь
і карась. А гэта акунь.

Не сядзіцца ў хаце
хлопчыку маламу:
кліча яго рэчка,
цягнуць санкі з дому.

Алесь ішоў у школу. Раптам
у небе пачуў: курлы-курлы.
У вырай адлятаюць жураўлі.

Карова, конь, свіння, авечка —
свойская жывёла.

**Ус. Краўчанка**

# ЛАПКА ПАВІННА ЖЫЦЬ

Дарога была гразкая, уся ў калдобінах, і матацыкл то рэзка падкідвала ўгору, то шпурляла ў бакі, то гойдала і калыхала, як човен на хвалях. Улетку гэты прасёлак быў — хоць бокам каціся, і дваццаць пяць кіламетраў на тым жа матацыкле Данік, бывала, праскакваў за якіх сорак мінут. А зараз... Трэба было мець сапраўды немалую адвагу, каб выправіцца ў такую дарогу.

— І ты з-за гэтага няшчаснага клапавухага труса хочаш ехаць у такую дарогу? — здзівіўся Саша, калі Данік раніцою прыбег да яго прасіць матацыкл.

— Гэта не трус, а трусіха, — нахмурыўшыся, адрэзаў Данік. — І прытым не абы-якая трусіха, а чыстакроўная „белы велікан“, і не табе разбірацца, варта ці не варта яна такога клопату.

— Бяры і каці, — коратка кінуў Саша. — Толькі ўлічы, што ехаць ты будзеш больш на сваёй уласнай галаве, чым на колах.

І вось Данік сунецца па дарозе, настойліва пераадольвае кіламетр за кіламетрам. За спіною ў яго прывязана кайстра з прарэзанай дзіркай, а з дзіркі тырчыць вялізная, белая як снег, галава трусіхі Лапкі. Вочы ў яе заплюшчаны, і, здаецца, што яна проста спіць. Але частае і хрыплае дыханне Лапкі паказвае, што гэта не сон. Лапка моцна захварэла і ад таго, як хутка Данік прывязе яе ў ветэрынарную лячэбніцу, залежыць яе жыццё.

Паўгода таму назад Даніку даручылі ў школе даглядаць дзве трусіхі — шэрую і белую. Упершыню прыйшоўшы ў трусятнік, Данік стаў каля клеткі і, не адкрываючы дзверцаў, доўга назіраў за гэтымі двума нявіннымі даверлівымі звяркамі. Потым ён прасунуў руку ў клетку і нацэліўся лёгенька пстрыкнуць у вільготны нос белай трусіхі, якая сядзела бліжэй. Але тая, не здагадваючыся аб намеры Даніка, даверліва наблізілася і лізнула яго пальцы. Данік аж засаромеўся. Ён накрышыў у карытка буракоў, бручкі і паставіў у клетку. Трусы так і накінуліся на ежу. Белая паспрабавала залезці ў карытца нават з лапкамі, і Данік асцярожна адсадзіў яе. Лапкі ў трусіхі былі такія прыгожыя, беленькія.

У гэтую ж першую сустрэчу Данік даў і імёны сваім трусам. Белую трусіху ён так адразу і назваў Лапкай, а падумаўшы крыху, падабраў імя і для шэрай — Чапка: беручы з карытца буракі, яна гэтак смешна чапкала губамі. Потым Данік пайшоў у школьную бібліятэку, узяў там брашурку аб доглядзе трусоў. Гэта ўжо было ў яго ў натуры — калі ён браўся за штонебудзь, бо браўся сур'ёзна, удумліва.

Дзён праз дзесяць у трусятніку адбылася важная падзея — атрусілася Чапка. Яна прывяла аж адзінаццаць трусянят. Колькі клопату прыбавілася ў Даніка, але колькі цяпер было і пацехі! Вельмі забаўна было глядзець, як маленькія шэрыя трусяняткі валтузіліся ў клетцы, куляліся адзін цераз аднаго.

А неўзабаве дала прыплод і славутая Лапка. Яна атрусіла дзевяць

вушаценькіх, падобных на бялюткія снегавыя камячкі, малютак. Цяпер ужо трусіны статак Даніка налічваў аж дваццаць дзве галавы!

Адным словам, усё ішло як не трэба лепш. І раптам учора Данік заўважыў, што яго любімая Лапка нешта стамілася, засумавала, перастала есці. Спачатку Данік думаў, што ёй проста не па густу прыйшлася ежа, і пачаў частаваць Лапку яе любімым ласункам — морквай. Але Лапка не дакранулася нават да морквы. Не ведаючы, што за хвароба ў трусіхі, Данік парашыў як найхутчэй паказаць яе ветэрынару.



І вось ён імчыць па разбітай лясной дарозе. Данік памятаў, што адразу ж за гэтым ляском ляжаў шырокі прырэчны луг, пасярэдзіне якога бегла жвавая балотная рачулка Бараўлянка.

„Ну, Лапка, трымайся, гэта будзе апошняе наша выпрабаванне," — падумаў Данік, адчуваючы на спіне нерухомае цёплае цела трусіхі.

Уся грэбля была заслана галлём. Колы матацыкла ўрэзаліся ў гусцеж галля, і машыну рэзка кінула ўбок. Як шалёны, завыў матор — задняе кола, згубіўшы счапленне з грунтам, засвістала на халастым ходу. Потым раптам матацыкл ірвануўся наперад, і Данік ледзь утрымаўся ў сядле. Машына ішла няроўна, рыўкамі, пярэдняе кола то падлятала высока ўгару, то зарывалася ў галлё. Не чакаючы, пакуль яго выкіне з сядла, Данік саскочыў з матацыкла: ехаць па галлі было рызыкоўна, можна было ўпасці і ненарокам прыдушыць прывязаную за спіну Лапку. Але і цягнуць матацыкл уласнай сілай цераз гэтае галлё было амаль немагчыма. А што, калі правесці матацыкл цераз грэблю ў руках, не глушачы матора, сваім ходам? Як добра, што Данік здагадаўся абуць боты, — у лёгкіх чаравіках ён, бадай, і не змог бы зараз бегчы па гэтым ламаччы.

Вось і масток. Хлапчук выскачыў на яго, спыніў матацыкл. Перад ім ляжала яшчэ метраў сто заваленай ламаччам грэблі. Але гэты кавалак дарогі яго ўжо не палохаў. Данік быў упэўнены, што адолее грэблю. Ён перадыхнуў, скінуў шапку, выцер хусцінкай пот на лбе. Як ні быў ён стомлены, настрой у яго палепшыўся. Данік адчуваў задавальненне сабой, гордасць, што здолеў перамагчы ўсе перашкоды. Няхай ён стаміўся, але ён выратуе хворую Лапку.

Апошнія метры грэблі былі, бадай, самымі цяжкімі. Але вось, нарэшце, і шаша. Хлопец імчыць „з ветрыкам", як звычайна любіць ездзіць улетку...

...Мінула не больш паўгадзіны, як Данік — змучаны і з галавы да ног абпырсканы гразёю, з падрапанымі рукамі — на поўным ходу падкаціў да варот ветлячэбніцы.

Спакойны, непаспешлівы ў ру-

*(Працяг на стар. 7)*




## З ПАПЕРЫ

Вясной 1969 года на кірмашы ў Брно чэхаславацкае народнае прадпрыемства „Вігона“ ўпершыню паказала ўзоры жаночых сукенак з паперы. Гэтыя сукенкі адразу ж прыцягнулі ўсеагульную ўвагу, і прадпрыемства значна пашырыла іх выпуск.

Чэхаславацкія сукенкі маюць шмат пераваг ў параўнанні з папяровымі сукенкамі, якія выпускаюцца ў некаторых краінах Заходняй Еўропы. Іх, напрыклад, можна мыць да трох разоў, праўда, асцярожна і толькі ў цёплай вадзе (да 40°), зразумела, не выкручваючы.

Папера аказалася добрым матэрыялам і для вырабу іншых рэчаў. Так, народнае прадпрыемства „Пражскія папірні“ выпусціла першы ў Чэхаславакіі і сацыялістычных краінах камплект мэблі. Ён складаецца з васьмі відаў. Тры з іх прызначаны для дзяцей. Мэблі дастаткова трывалыя і на дзіва лёгкія. Усе прадметы пакрыты пластмасавай плёнкай, іх можна мыць.

Народнае прадпрыемства „Брненскія папірні“ пачало прадукаваць папяровыя палаткі. Лісты, з якіх збіраюць палатку, лёгкія, не баяцца вільгаці і, галоўнае, танныя.

## ЧАРАПАХА-ВОЛАТ

Гіганцкую чарапаху даўжынёй 1 метр 70 сантыметраў вылавілі рыбакі італьянскага вострава Сардзінія. Чарапаха важыць 320 кілаграмаў. Яна адносіцца да віду чарапах, якія звычайна жывуць у Атлантычным акіяне.

Па парадзе вучоных рыбакі выпусцілі чарапаху ў мора ў надзеі, што ёй удасца выбрацца ў акіян.

## САНАТОРЫЙ ДЛЯ КІТОЎ

Ледавітыя воды вакол Антарктыды вучоныя назвалі санаторыем для кітоў. У гэтых халодных водах кіты пазбываюцца паразітаў, якія ўгрызаюцца ў іх скуру ў цёплых водах акіянаў. У антакртычных водах паразіты гінуць. Пасля купання ў ледавітай вадзе і ачышчэння скуры кіты вяртаюцца ў цяплейшыя раёны.

## З ШЫН

У Англіі школьныя спартыўныя пляцоўкі пакрываюць матэрыялам, зробленым з выкарыстаных і ўжо непатрэбных аўтамабільных шын (апон). Шыны рэжуць на тонкія пласціны і выклейваюць імі падлогу ці пляцоўку на свежым паветры. Зверху пласціны пасыпаюцца гумавымі крошкамі, каб падлога была больш храпаватай.

Такія пляцоўкі трывалыя, не баяцца дажджу і марозу і добра прыцішаюць шум. На такіх бегавых дарожках можна бегаць хутчэй, чым на традыцыйных.

*Адказ на адгадaнку: Паважай старэйшых.*

(Працяг са стар. 5)

# ЛАПКА ПАВІННА ЖЫЦЬ

ках, ветэрынарны лекар, перш чым агледзець хворую трусіху, скасіўся з-пад акуляраў і доўгім уважлівым позіркам паглядзеў на Даніка.

— Дык ты кажаш, з самых Сасновіч прыехаў? — з цікавасцю спытаў ён, відаць, адразу здагадаўшыся па выгляду Даніка, чаго каштавала гэтае падарожжа хлапчуку. — Гм-м... На матацыкле?.. Гмм-м... Ну, ну, пакажы сваю хворую...

Лекар старанна аглядаў трусіху, трубкай слухаў, як яна дыхае, змераў ёй тэмпературу. Лапка была ўся вялая, паслухмяная, здавалася, ёй было ўжо ўсё роўна, што з ёй рабілі.

— Вось што, дружа мой, — паклаўшы ў кішэню трубку, сказаў нарэшце лекар. — Будзе жыць твая трусіха.

— Будзе жыць?! — радасна выгукнуў Данік.

— Застудзілася яна моцна, пеніцылінам лячыць трэба, — растлумачыў лекар і супакоіў Даніка: — Але ты не хвалюйся, праз тры дні прыязджай — падскокваць будзе...

— Дзякуй вам... вялікае дзякуй! — горача прамовіў Данік.

Ён падбег да трусіхі, якая нерухома, з заплюшчанымі вачыма сядзела на стале, нахіліўся, ласкава пагладзіў па мякенькай белай поўсці.

— Трымайся тут, Лапка!.. — прашаптаў Данік, як бы развітваючыся з ёю на час, пакуль яна будзе ў бальніцы. — Хутчэй ачуньвай.

(У скарачэнні)

# ГУЛЬНІ

## МЯЦЁЛКА

Гульню праводзяць на ледзяным катку або утаптанай снегавой пляцоўцы. Для гульні кожны ўдзельнік павінен мець мяцёлку (пучок галінак) і 3-5 ледзякоў (асколкаў лёду або змёрзлых снежак) дыяметрам 5-7 см. Адначасова гуляць могуць ад 3 да 10 чалавек.

На лёдзе (снезе) чэрцяць круг дыяметрам 7-14 метраў. У цэнтры яго робяць адзнаку — „мету“. На лініі круга, на адной адлегласці адна ад другой кожны гуляючы капае лунку шырынёй 15-30 і глыбінёй 5-7 см. Пасля адзін з ігракоў кладзе лядзяк на „мету“, а астатнія за лініяй круга, і ўсе гуляючыя займаюць месца каля сваіх лунак.

Ігрок, лядзяк якога ляжыць на „меце“, дэкламуе:

— Усім разам на гэтым месцы паўвека месці, аднаму замесці! — і ўдарае мяцёлкай па лёдзе.

Ігракі бягуць да „меты“ і стараюцца „замесці“ лядзяк у сваю лунку. Калі лядзяк „замецены“, на „мету“ кладзецца другі лядзяк, ігракі вяртаюцца да сваіх лунак і каманду падае наступны ігрок, які стаіць злева ад папярэдняга. Гульня працягваецца, пакуль не будуць „замецены“ ўсе ледзякі. Пераможцам з'яўляецца той, хто „замяце“ ў сваю лунку больш ледзякоў.

# Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 12, кв. 3. Ірына Гушляк, вучаніца 9 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 5, кв. 50. Іна Казлоўская, вучаніца 8 класа.

* ✲ *

БССР, 220015, г. Мінск-15, праспект Пушкіна, 3, кв. 148. Лена Маркоўнікава, вучаніца 5 класа.

* ✲ *

БССР, 220074, г. Мінск-74, вул. Харкаўская, 76-б, кв. 63. Таня Гурына, вучаніца 5 класа.

* ✲ *

БССР, 220015, г. Мінск-15, праспект Пушкіна, 5, кв. 49. Ала Дзівіна, вучаніца 5 класа.

* ✲ *

БССР, 220074, г. Мінск-74, вул. Харкаўская, 76-б, кв. 63. Лена Гурына, вучаніца 5 класа.

* ✲ *

БССР, 220093, г. Мінск-93, вул. П. Глебкі, 82, кв. 158. Оля Наталевіч, вучаніца 6 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 104, кв. 40. Аліна Смірнова, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Хмялеўскага, 38, кв. 47. Таня Анненкава, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 53. Святлана Ніціеўская, вучаніца 4 класа.

## АДГАДАНКА




*Што тут зашыфравана? Адказ знойдзеш у сярэдзіне нумара.*

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**